*ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*

# АБ СТАТУСЕ НАРОДНАГА ДЭПУТАТА МЯСЦОВАГА САВЕТА НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Гэты Закон у адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь вызначае статус народнага дэпутата мясцовага Савета народных дэпутатаў як паўнамоцнага прадстаўніка сваіх выбаршчыкаў у калегіяльным органе дзяржаўнай улады, замацоўвае яго правы і абавязкі, стварае неабходныя прававыя гарантыі дэпутацкай дзейнасці.

## I. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 1. Удзел народнага дэпутата ў ажыццяўленні дзяржаўнай улады**

Ажыццяўленне мясцовым Саветам народных дэпутатаў функцый дзяржаўнай улады грунтуецца на актыўным і раўнапраўным удзеле ў яго рабоце кожнага народнага дэпутата.

У мясцовым Савеце і яго органах народны дэпутат абмяркоўвае і вырашае пытанні дзяржаўнага, гаспадарчага і сацыяльна-культурнага будаўніцтва ў адпаведнасці з кампетэнцыяй дадзенага Савета, удзельнічае ў падрыхтоўцы і прыняцці рашэнняў Савета, кантралюе выкананне законаў Рэспублікі Беларусь, іншых актаў вышэйстаячых органаў дзяржаўнай улады і кіравання Рэспублікі Беларусь, а таксама рашэнняў Савета.

Народны дэпутат будуе сваю работу ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, рашэннямі адпаведнага мясцовага Савета, наказамі выбаршчыкаў і са сваёй перадвыбарнай праграмай.

**Артыкул 2. Заканадаўства аб статусе народнага дэпутата мясцовага Савета**

Статус народнага дэпутата мясцовага Савета народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь вызначаецца Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і гэтым Законам.

Асобныя пытанні дэпутацкай дзейнасці могуць рэгулявацца іншымі нарматыўнымі актамі Рэспублікі Беларусь, а таксама адпаведных мясцовых Саветаў.

**Артыкул 3. Паўнамоцтвы народнага дэпутата**

Паўнамоцтвы народнага дэпутата пачынаюцца з дня яго выбрання і заканчваюцца ў дзень выбрання дэпутатаў адпаведнага Савета новага склікання або ў выпадках, прадугледжаных артыкулам 11 гэтага Закона.

Адпаведны Савет па прадстаўленню мандатнай камісіі разглядае пытанне аб паўнамоцтвах дэпутатаў і ў выпадку парушэння заканадаўства аб выбарах прымае рашэнне аб прызнанні выбараў асобных дэпутатаў несапраўднымі.

Пры неабгрунтаванай адмове адпаведнага Савета ў пацвярджэнні паўнамоцтваў выбранага дэпутата канчатковае рашэнне аб прызнанні яго паўнамоцтваў прымае па заключэнню пракурора вышэйстаячы Савет.

**Артыкул 4. Спалучэнне дэпутацкай дзейнасці з выкананнем вытворчых і службовых абавязкаў**

Народны дэпутат ажыццяўляе свае паўнамоцтвы, як правіла, не парываючы з вытворчай або службовай дзейнасцю.

**Артыкул 5. Узаемаадносіны народнага дэпутата з выбаршчыкамі**

Народны дэпутат падтрымлівае сувязі з выбаршчыкамі, працоўнымі калектывамі і грамадскімі аб'яднаннямі, якія вылучылі яго кандыдатам у дэпутаты, а таксама з калектывамі іншых прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, дзяржаўнымі і грамадскімі органамі, размешчанымі на тэрыторыі яго выбарчай акругі.

Народны дэпутат як паўнамоцны прадстаўнік выбаршчыкаў выкарыстоўвае свой статус для забеспячэння гарантаваных Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь правоў і законных інтарэсаў грамадзян, абароны іх гонару і годнасці.

Народны дэпутат адказны перад выбаршчыкамі і ім падсправаздачны.

Народны дэпутат, які не апраўдаў даверу выбаршчыкаў, можа быць адкліканы выбаршчыкамі ва ўстаноўленым законам парадку.

**Артыкул 6. Узаемаадносіны народнага дэпутата з Саветам і яго органамі**

Народны дэпутат, з'яўляючыся членам калегіяльнага прадстаўнічага органа дзяржаўнай улады, валодае ўсёй паўнатой правоў, якія забяспечваюць яго актыўны ўдзел у дзейнасці Савета, утвараемых ім пастаянных камісій, іншых органаў, нясе абавязкі перад Саветам па выкананню прынятых ім у межах сваёй кампетэнцыі рашэнняў.

Мясцовы Савет мае права заслухаць паведамленне народнага дэпутата аб яго рабоце ў Савеце, аб выкананні ім рашэнняў і даручэнняў Савета і яго органаў.

Прэзідыум мясцовага Савета, старшыня Савета, іншыя органы і службовыя асобы Савета абавязаны ствараць народным дэпутатам неабходныя ўмовы для эфектыўнага ажыццяўлення імі дэпутацкіх паўнамоцтваў.

**Артыкул 7. Удзел народнага дэпутата ў рабоце іншых органаў дзяржаўнай улады**

Народны дэпутат мае права ўдзельнічаць з правам дарадчага голасу ў рабоце іншых мясцовых Саветаў і іх органаў пры прыняцці імі рашэнняў, якія закранаюць інтарэсы насельніцтва, што пражывае на тэрыторыі таго Савета, у склад якога ён выбраны.

**Артыкул 8. Дэпутацкія групы і іншыя дэпутацкія аб'яднанні**

Народныя дэпутаты маюць права аб'ядноўвацца для ўзгодненых дзеянняў у Савеце, выбарчых акругах у пастаянныя і часовыя дэпутацкія групы і іншыя аб'яднанні на аснове ўзаемнай згоды.

Парадак дзейнасці дэпутацкіх груп і іншых дэпутацкіх аб'яднанняў, іх правы вызначаюцца рэгламентам адпаведнага Савета, заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь, якія рэгулююць пытанні дэпутацкай дзейнасці.

**Артыкул 9. Дэпутацкая этыка**

Народны дэпутат павінен строга захоўваць нормы дэпутацкай этыкі. Пытанні аб парушэннях дэпутацкай этыкі разглядаюцца адпаведным Саветам ці па яго даручэнню — прэзідыумам або камісіяй, якая спецыяльна ўтвараецца.

**Артыкул 10. Абарона правоў, гонару і годнасці народнага дэпутата**

Правы, гонар і годнасць народнага дэпутата знаходзяцца пад абаронай дзяржавы.

Народны дэпутат мясцовага Савета карыстаецца дэпутацкай недатыкальнасцю. Недатыкальнасць народнага дэпутата мясцовага Савета заключаецца ў прадастаўленні дзяржавай асобых гарантый абароны асобы дэпутата ад крымінальнага, адміністрацыйнага або дысцыплінарнага праследавання пры ажыццяўленні ім дэпутацкіх паўнамоцтваў.

Асобы, якія робяць замах на гонар і годнасць народнага дэпутата ці аказваюць супрацьпраўнае ўздзеянне на яго, членаў яго сям'і або сваякоў з мэтай перашкодзіць выкананню дэпутацкіх абавязкаў або супраць волі народнага дэпутата схіліць яго да прыняцця рашэння ў чыю-небудзь карысць, падлягаюць адказнасці ў адпаведнасці з законам.

**Артыкул 11. Датэрміновае спыненне паўнамоцтваў народнага дэпутата**

Паўнамоцтвы народнага дэпутата спыняюцца датэрмінова па рашэнню адпаведнага Савета ў сувязі:

з выбраннем або назначэннем дэпутата на пасаду, заняцце якой па закону несумяшчальна з выкананнем дэпутацкіх паўнамоцтваў;

з асабістай заявай дэпутата з прычыны абставін, якія перашкаджаюць выкананню паўнамоцтваў, або па іншых асабістых матывах;

з прызнаннем вынікаў выбараў несапраўднымі;

з уступіўшым у законную сілу абвінаваўчым прыгаворам суда ў адносінах да асобы, якая з'яўляецца дэпутатам;

са спыненнем грамадзянства Рэспублікі Беларусь.

## II. ДЗЕЙНАСЦЬ НАРОДНАГА ДЭПУТАТА Ў САВЕЦЕ

**Артыкул 12. Удзел народнага дэпутата ў рабоце Савета**

На сесіях Савета народныя дэпутаты на аснове калектыўнага, раўнапраўнага і свабоднага абмеркавання разглядаюць і вырашаюць усе пытанні, аднесеныя да ведання адпаведнага Савета.

Народны дэпутат абавязаны ўдзельнічаць у рабоце сесій Савета і ў пасяджэннях яго органаў, у склад якіх ён выбраны або ўваходзіць па пасадзе. У выпадку немагчымасці прыбыць на сесію або пасяджэнне ён павінен паведаміць аб гэтым у прэзідыум Савета (старшыні) або кіраўніку адпаведнага органа Савета.

Пры сістэматычным няўдзеле дэпутата ў рабоце Савета і яго органаў або парушэнні норм дэпутацкай этыкі Савет інфармуе аб гэтым выбаршчыкаў дадзенага дэпутата.

**Артыкул 13. Правы народнага дэпутата на сесіі Савета**

Народны дэпутат карыстаецца правам рашаючага голасу па ўсіх пытаннях, што разглядаюцца Саветам і яго органамі, у склад якіх ён выбраны або ўваходзіць па пасадзе.

Народны дэпутат мае права:

выбіраць і быць выбраным у органы Савета;

удзельнічаць з правам дарадчага голасу ў рабоце любога ўтворанага Саветам органа;

прапаноўваць пытанні для разгляду Саветам і яго органамі;

уносіць прапановы і заўвагі па павестцы дня сесіі, парадку разгляду і сутнасці пытанняў, якія абмяркоўваюцца;

уносіць праекты рашэнняў і папраўкі да іх;

вылучаць кандыдатуры, у тым ліку і сваю ўласную, у склад органаў, якія ўтвараюцца Саветам;

уносіць прапановы аб заслухоўванні на сесіі Савета справаздачы ці інфармацыі любога органа або службовай асобы, падсправаздачнай ці падкантрольнай Савету;

уносіць прапановы аб вызваленні ад абавязкаў службовых асоб, аб іншых кадравых перастаноўках у падначаленых ці падкантрольных Савету органах;

прапаноўваць да разгляду Саветам пытанні аб правядзенні праверак выканання законаў Рэспублікі Беларусь, рашэнняў адпаведнага Савета падсправаздачнымі органамі кіравання, прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі, размешчанымі на тэрыторыі Савета;

звяртацца з запытамі, удзельнічаць у абмеркаваннях, задаваць пытанні дакладчыкам і старшынствуючаму на пасяджэнні, даваць ацэнку атрыманым адказам;

выступаць з абгрунтаваннем сваіх прапаноў і па матывах галасавання даваць даведкі;

знаёміцца з тэкстамі сваіх выступленняў у стэнаграмах і пратаколах пасяджэнняў Савета і яго органаў да апублікавання, а таксама атрымліваць тэксты выступленняў, якія не падлягаюць апублікаванню;

апавяшчаць на сесіях Савета звароты грамадзян, якія маюць грамадскае значэнне.

Народны дэпутат па пытанню, якое абмяркоўваецца на сесіі, можа перадаць старшынствуючаму тэкст свайго выступлення, прапаноў і заўваг, што падлягаюць уключэнню ў пратакол сесіі і ўлічваюцца пры прыняцці рашэнняў. У выпадку іх адхілення дэпутату даецца абгрунтаваны адказ.

Народны дэпутат, які не згодны з рашэннем Савета або яго органа, мае пераважнае права на выкладанне сваёй асобай думкі на іх пасяджэннях.

Парадак рэалізацыі ўказаных правоў устанаўліваецца законамі Рэспублікі Беларусь і рэгламентам адпаведнага Савета.

**Артыкул 14. Дэпутацкі запыт**

Дэпутацкі запыт — заяўляемае народным дэпутатам або групай дэпутатаў на сесіі Савета патрабаванне даць афіцыяльнае растлумачэнне ці выкласці пазіцыю па пытаннях, што датычацца важнейшых грамадскіх інтарэсаў на тэрыторыі Савета. Дэпутацкі запыт уключаецца ў павестку дня сесіі ў парадку, які вызначаецца рэгламентам Савета.

Народны дэпутат або група дэпутатаў маюць права звярнуцца на сесіі з запытам да прэзідыума Савета, старшыні Савета, выканаўчага і распарадчага органа, кіраўнікоў яго структурных падраздзяленняў, а таксама да кіраўнікоў або ўладальнікоў любых размешчаных на тэрыторыі Савета прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый па пытаннях, аднесеных да ведання адпаведнага Савета або закранаючых яго інтарэсы. Запыт можа быць унесены ў вуснай або пісьмовай форме. Запыт, унесены ў пісьмовай форме, падлягае апавяшчэнню на сесіі самім дэпутатам або па яго просьбе старшынствуючым.

Дзяржаўны орган або службовая асоба, да якіх звернуты запыт, абавязаны даць у трохдзённы або іншы ўстаноўлены Саветам тэрмін афіцыяльны адказ. Дэпутат мае права даць ацэнку адказу службовай асобы на запыт. Па выніках абмеркавання запыту прымаецца рашэнне. Запыт, адказ на яго і прынятае Саветам рашэнне даводзіцца да ведама грамадскасці праз сродкі масавай інфармацыі ці іншым шляхам.

Савет мае права абавязаць дзяржаўны орган або службовую асобу прадставіць да ўстаноўленага тэрміну справаздачу аб выкананні рашэння па дэпутацкаму запыту.

Асобы, да якіх звернуты дэпутацкі запыт, нясуць устаноўленую законам адказнасць за своечасовасць, паўнату і праўдзівасць прадстаўленай па запыту інфармацыі.

**Артыкул 15. Парадак разгляду прапаноў і заўваг народных дэпутатаў, унесеных на сесіі Савета**

Прапанова і заўвагі, выказаныя дэпутатам на сесіі Савета або перададзеныя ў пісьмовай форме старшынствуючаму на сесіі, разглядаюцца Саветам ці пастаяннымі камісіямі або накіроўваюцца імі на разгляд адпаведным дзяржаўным, грамадскім органам і службовым асобам.

Дзяржаўныя і грамадскія органы, а таксама службовыя асобы, якім накіраваны прапановы і заўвагі дэпутатаў, унесеныя на сесіі Савета, абавязаны разгледзець іх не пазней чым у месячны тэрмін і аб выніках паведаміць пісьмова непасрэдна дэпутатам, а таксама старшыні або прэзідыуму Савета, выканаўчаму і распарадчаму органу.

Кантроль за разглядам і рэалізацыяй прапаноў і заўваг дэпутатаў ажыццяўляецца прэзідыумам і пастаяннымі камісіямі Савета.

**Артыкул 16. Удзел народнага дэпутата ў рабоце органаў Савета**

Народны дэпутат, які ўваходзіць у склад прэзідыума і іншых органаў Савета, мае права ўносіць любыя пытанні і прапановы на разгляд указаных органаў, удзельнічаць у падрыхтоўцы іх да разгляду, у іх абмеркаванні і прыняцці па іх рашэнняў, а таксама ў арганізацыі ажыццяўлення рашэнняў Савета і яго органаў і ў кантролі за іх выкананнем.

Народны дэпутат, які не згодны з рашэннем органа Савета, у склад якога ён выбраны або ўваходзіць па пасадзе, мае права выкласці свой пункт гледжання на сесіі Савета або паведаміць аб ім у пісьмовай форме старшынствуючаму.

Народны дэпутат, які не ўваходзіць у склад органа Савета, можа прымаць удзел у яго пасяджэннях, уносіць прапановы, удзельнічаць у абмеркаванні пытанняў, якія разглядаюцца, і прыняцці рашэнняў з правам дарадчага голасу. У выпадку нязгоды з рашэннем органа Савета дэпутат можа ўнесці сваю прапанову ў пісьмовай форме ў якасці папраўкі да праекта рашэння. Папраўкі, унесеныя дэпутатам, разглядаюцца органам Савета, і па іх праводзіцца галасаванне.

Па рашэнню Савета дэпутат можа быць выведзены са складу органаў Савета за сістэматычны няўдзел у іх рабоце.

**Артыкул 17. Удзел народнага дэпутата ў праверках работы дзяржаўных і грамадскіх органаў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый**

Па даручэнню Савета, яго органаў або па ўласнай ініцыятыве дэпутат можа ўдзельнічаць у праверках работы размешчаных на тэрыторыі Савета дзяржаўных і грамадскіх органаў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый па пытаннях, якія адносяцца да ведання Савета, знаёміцца з неабходнымі дакументамі. Аб выніках праверкі дэпутат інфармуе Савет або яго органы, а таксама адпаведныя дзяржаўныя і грамадскія органы, прадпрыемствы, установы, арганізацыі і ў выпадку неабходнасці ўносіць прапановы аб паляпшэнні іх работы, ліквідацыі выяўленых недахопаў, адмене незаконных рашэнняў, прыцягненні да адказнасці асоб, вінаватых у парушэнні дзяржаўнай дысцыпліны і законнасці.

Народны дэпутат мае права ўнесці ў Савет і яго органы пытанне аб неабходнасці правядзення праверак работы дзяржаўных і грамадскіх органаў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, размешчаных на тэрыторыі Савета, аб правядзенні ва ўстаноўленым законам парадку расследаванняў па любому пытанню.

**Артыкул 18. Дэпутацкае расследаванне**

Па рашэнню Савета і яго органаў або па ініцыятыве групы дэпутатаў, колькасны склад якой вызначаецца рэгламентам Савета, можа назначацца дэпутацкае расследаванне. Усе дзяржаўныя органы і службовыя асобы абавязаны аказваць неабходнае садзейнічанне ў правядзенні дэпутацкага расследавання, па патрабаванню дэпутацкай камісіі павінны беспершкодна прадастаўляць неабходныя для аб'ектыўнага вывучэння пытання звесткі і дакументы.

Вынікам расследавання з'яўляецца матываванае заключэнне, рашэнне па якому прымаецца адпаведна Саветам або яго органамі.

## III. ДЗЕЙНАСЦЬ НАРОДНАГА ДЭПУТАТА Ў ВЫБАРЧАЙ АКРУЗЕ

**Артыкул 19. Правы народнага дэпутата ў сувязі з работай у выбарчай акрузе**

У мэтах ажыццяўлення сваіх паўнамоцтваў у выбарчай акрузе народны дэпутат мае права:

удзельнічаць з правам дарадчага голасу ў разглядзе органамі дзяржаўнай улады і кіравання, органамі адпаведных грамадскіх аб'яднанняў пытанняў, якія закранаюць інтарэсы грамадзян выбарчай акругі, і патрабаваць іх вырашэння. Гэтыя органы абавязаны загадзя паведамляць дэпутату аб разглядзе такіх пытанняў;

правяраць з прыцягненнем пры неабходнасці спецыялістаў кантрольна-рэвізійных і праваахоўных органаў, грамадскасці звесткі аб парушэннях законаў, правоў і законных інтарэсаў грамадзян і арганізацый, праяўленнях валакіты і бюракратызму, якія сталі яму вядомымі са зваротаў грамадзян, арганізацый і іншых крыніц, атрымліваць неабходную для гэтага інфармацыю, патрабаваць ад адпаведных органаў і службовых асоб ліквідацыі выяўленых парушэнняў;

праводзіць сходы (канферэнцыі) выбаршчыкаў акругі, сустрэчы з працоўнымі калектывамі і мясцовымі органамі грамадскіх арганізацый;

удзельнічаць у рабоце розных аб'яднанняў народных дэпутатаў, выбаршчыкаў, органаў тэрытарыяльнага грамадскага самакіравання, у сходах гаспадарчага актыву, працоўных калектываў, грамадскіх арганізацый, грамадзян па месцы жыхарства і ваеннаслужачых па воінскіх часцях.

Народны дэпутат у Рэспубліцы Беларусь мае пераважнае права выступаць па пытаннях сваёй дэпутацкай дзейнасці ў сродках масавай інфармацыі, якія засноўваюцца адпаведным Саветам. Рэдагаванне прадстаўленых дэпутатам для апублікавання матэрыялаў без узгаднення з ім не дапускаецца.

**Артыкул 20. Абавязкі народнага дэпутата ў сувязі з работай у выбарчай акрузе**

У сваёй выбарчай акрузе народны дэпутат абавязаны:

рэгулярна інфармаваць насельніцтва аб рабоце Савета, аб выкананні планаў і праграм эканамічнага і сацыяльнага развіцця, рашэнняў Савета, наказаў выбаршчыкаў, а таксама сваёй перадвыбарнай праграмы;

удзельнічаць у арганізацыі і кантролі выканання законаў Рэспублікі Беларусь, іншых актаў вышэйстаячых органаў дзяржаўнай улады і кіравання Рэспублікі Беларусь, рашэнняў Савета і яго органаў;

вывучаць грамадскую думку, патрэбы і запатрабаванні насельніцтва, паведамляць аб іх Савету і яго органам, іншым дзяржаўным і грамадскім арганізацыям, прадпрыемствам і ўстановам, уносіць прапановы, прымаць меры для іх задавальнення, умацавання дысцыпліны і правапарадку;

садзейнічаць развіццю розных форм самакіравання, сацыяльнай актыўнасці грамадзян, уцягненню іх у кіраванне дзяржаўнымі і грамадскімі справамі;

рэгулярна, не радзей аднаго разу ў месяц, ажыццяўляць прыём грамадзян.

**Артыкул 21. Разгляд народным дэпутатам прапаноў, заяў і скаргаў грамадзян**

Народны дэпутат разглядае ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку прапановы, заявы і скаргі выбаршчыкаў, якія паступілі да яго, забяспечвае правільнае і своечасовае іх вырашэнне, вядзе прыём грамадзян на тэрыторыі сваёй выбарчай акругі, вывучае грамадскую думку, уносіць прапановы ў адпаведны Савет, а пры неабходнасці — у іншыя дзяржаўныя і грамадскія органы. Ён мае права запрашаць для ўдзелу ў прыёме грамадзян службовых асоб дзяржаўных і грамадскіх органаў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, размешчаных на тэрыторыі выбарчай акругі.

Народны дэпутат мае права ажыццяўляць кантроль за разглядам накіраваных ім прапаноў, заяў і скаргаў у дзяржаўных і грамадскіх органах, прадпрыемствах, установах і арганізацыях, размешчаных на тэрыторыі Савета, і прымаць асабісты ўдзел у іх разглядзе.

Службовыя асобы дзяржаўных і грамадскіх органаў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, размешчаных на тэрыторыі адпаведнага Савета, абавязаны аказваць дэпутату дапамогу ў яго кантрольнай дзейнасці.

**Артыкул 22. Справаздачы народнага дэпутата перад выбаршчыкамі, сустрэчы з імі**

Народны дэпутат мясцовага Савета перыядычна, але не радзей двух разоў у год, абавязаны рабіць справаздачу перад выбаршчыкамі акругі, працоўнымі калектывамі і грамадскімі аб'яднаннямі, якія вылучылі яго кандыдатам у дэпутаты, аб сваёй рабоце, аб ходзе выканання перадвыбарнай праграмы і рэалізацыі наказаў выбаршчыкаў.

Справаздача дэпутата можа быць праведзена таксама па патрабаванню групы выбаршчыкаў колькасцю, устаноўленай адпаведным Саветам. У гэтым выпадку прэзідыумы, старшыні мясцовых Саветаў народных дэпутатаў прымаюць меры, неабходныя для арганізацыі нечарговай справаздачы народнага дэпутата, не пазней чым за месяц да правядзення нечарговай справаздачы паведамляюць дэпутату аб часе і месцы яе правядзення, аб прычынах, што паслужылі для гэтага падставай.

Справаздачы дэпутата праводзяцца на сходах выбаршчыкаў, якія склікаюцца з гэтай мэтай, а таксама на канферэнцыях дэлегатаў ад выбаршчыкаў адпаведнай выбарчай акругі.

Сход (канферэнцыя), на якім заслухоўваецца справаздача дэпутата, можа прымаць рашэнне, што змяшчае прапановы і заўвагі дэпутату, якія даводзяцца да ведама выбаршчыкаў акругі.

Мясцовыя органы дзяржаўнай улады праз сродкі масавай інфармацыі, заснаваныя Саветамі, забяспечваюць асвятленне справаздач дэпутатаў.

**Артыкул 23. Садзейнічанне народнаму дэпутату ў правядзенні справаздач і сустрэч з выбаршчыкамі**

Народнаму дэпутату забяспечваюцца неабходныя ўмовы для справаздач і сустрэч з выбаршчыкамі акругі. Па яго просьбе прэзідыум (старшыня) адпаведнага Савета, адміністрацыя прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый выдзяляюць памяшканні, паведамляюць грамадзянам аб часе і месцы правядзення справаздачы дэпутата або сустрэчы з выбаршчыкамі, накіроўваюць па запрашэнню дэпутата для ўдзелу ў сустрэчы сваіх прадстаўнікоў, аказваюць іншую дапамогу.

Па патрабаванню народнага дэпутата дзяржаўныя органы, прадпрыемствы, установы, арганізацыі, размешчаныя на тэрыторыі Савета, прадастаўляюць яму неабходныя для справаздачы і выступленняў на сустрэчах з выбаршчыкамі даведачныя і інфармацыйныя матэрыялы, за выключэннем звестак, якія складаюць дзяржаўную ці іншую тайну, якая ахоўваецца законам.

**Артыкул 24. Звароты народнага дэпутата**

Народны дэпутат мае права звяртацца ва ўсе дзяржаўныя органы, грамадскія аб'яднанні, прадпрыемствы, установы і арганізацыі, да службовых асоб па пытаннях, звязаных з дэпутацкай дзейнасцю ў сваёй акрузе, і прымаць удзел у разглядзе пастаўленых пытанняў. Аб дні разгляду дэпутату павінна быць паведамлена загадзя. Указаныя органы і службовыя асобы абавязаны даць дэпутату адказ на яго зварот у тэрмін і парадку, прадугледжаным для вырашэння скаргаў, заяў і прапаноў грамадзян.

**Артыкул 25. Права народнага дэпутата на неадкладны прыём службовымі асобамі**

Па пытаннях дэпутацкай дзейнасці дэпутат карыстаецца правам бесперашкоднага наведвання на тэрыторыі Савета дзяржаўных, кааператыўных і грамадскіх органаў і арганізацый, а таксама правам неадкладнага прыёму іх кіраўнікамі і іншымі службовымі асобамі.

Парадак наведвання народным дэпутатам арганізацый, дзейнасць якіх звязана з дзяржаўнай і іншай тайнай, што ахоўваецца законам, устанаўліваецца законам.

**Артыкул 26. Права народнага дэпутата патрабаваць ліквідацыі парушэнняў законнасці**

Выявіўшы парушэнне правоў і інтарэсаў грамадзян, якія ахоўваюцца законам, або іншыя парушэнні законнасці, народны дэпутат як прадстаўнік дзяржаўнай улады мае права на месцы патрабаваць спынення парушэння, а ў неабходных выпадках звярнуцца з патрабаваннем да адпаведных органаў і службовых асоб спыніць такія парушэнні. Факт парушэння можа фіксавацца ў пратаколе, складзеным дэпутатам, або па яго патрабаванню — прадстаўніком адпаведнага праваахоўнага ці кантрольнага органа.

Службовыя асобы дзяржаўных і грамадскіх органаў, адміністрацыя прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, а таксама работнікі праваахоўных органаў, да якіх звернута патрабаванне дэпутата, абавязаны без прамаруджвання прыняць меры для ліквідацыі парушэння, а пры неабходнасці — для прыцягнення вінаватых да адказнасці з наступным інфармаваннем аб гэтым дэпутата. У выпадку непрыняцця мер службовыя асобы нясуць дысцыплінарную ці крымінальную адказнасць ва ўстаноўленым законам парадку.

## IV. АРГАНІЗАЦЫЯ РАБОТЫ З НАКАЗАМІ ВЫБАРШЧЫКАЎ

**Артыкул 27. Наказы выбаршчыкаў народнаму дэпутату**

Наказамі народнаму дэпутату мясцовага Савета з'яўляюцца даручэнні, выказаныя выбаршчыкамі і прынятыя кандыдатам у народныя дэпутаты, па пытаннях дзяржаўнага, гаспадарчага і сацыяльна-культурнага будаўніцтва, рэалізацыя якіх адносіцца да ведання адпаведнага мясцовага Савета і яго органаў.

Кандыдат у народныя дэпутаты мае права не прыняць у якасці наказу даручэнне, унесенае сходам (канферэнцыяй) выбаршчыкаў, калі яно супярэчыць яго перадвыбарнай платформе, дзеючаму заканадаўству, або па іншых абгрунтаваных прычынах, што адлюстроўваецца ў пратаколе схода (канферэнцыі) выбаршчыкаў.

**Артыкул 28. Падрыхтоўка і прыняцце рашэнняў па наказах выбаршчыкаў**

Абагульненне і папярэдні разгляд наказаў выбаршчыкаў ажыццяўляюцца прэзідыумамі, выканаўчымі і распарадчымі органамі мясцовых Саветаў.

Выканаўчыя і распарадчыя органы мясцовых Саветаў з улікам заўваг пастаянных камісій Саветаў рыхтуюць зводныя планы мерапрыемстваў па выкананню наказаў выбаршчыкаў і прадстаўляюць іх на разгляд адпаведных Саветаў.

Пры прыняцці Саветам рашэння аб немэтазгоднасці або немагчымасці выканання асобных наказаў выбаршчыкаў народны дэпутат мае права паставіць пытанне аб дадатковым іх вывучэнні і ўнясенні на паўторны разгляд Савета.

Саветы народных дэпутатаў улічваюць наказы выбаршчыкаў пры распрацоўцы планаў эканамічнага і сацыяльнага развіцця, мэтавых праграм і складанні бюджэту. Меры па іх рэалізацыі выдзяляюцца ў планах і бюджэце ў спецыяльны раздзел.

**Артыкул 29. Арганізацыя выканання наказаў выбаршчыкаў**

Выкананне наказаў выбаршчыкаў, прынятых да выканання мясцовымі Саветамі, забяспечваюць іх выканаўчыя і распарадчыя органы.

Кантроль за выкананнем наказаў выбаршчыкаў ажыццяўляецца мясцовымі Саветамі, камісіямі адпаведных Саветаў і народнымі дэпутатамі.

Выканаўчыя і распарадчыя органы не радзей аднаго разу ў год дакладваюць Саветам аб ходзе выканання рашэнняў па наказах выбаршчыкаў.

Прапановы, выказаныя ў ходзе перадвыбарных сустрэч з кандыдатамі, не выбранымі ў выніку выбараў дэпутатамі, накіроўваюцца выбарчымі камісіямі ў адпаведныя органы і службовым асобам для разгляду і прыняцця мер. Аб выніках разгляду і рэалізацыі такіх прапаноў прэзідыумы (старшыні) мясцовых Саветаў інфармуюць грамадзян.

**Артыкул 30. Удзел народнага дэпутата ў рабоце з наказамі выбаршчыкаў**

Народны дэпутат удзельнічае ў распрацоўцы і абмеркаванні плана мерапрыемстваў па рэалізацыі наказаў выбаршчыкаў, ажыццяўляе кантроль за іх выкананнем, рэгулярна інфармуе выбаршчыкаў аб ходзе выканання наказаў.

Па даручэнню Савета або яго органаў, а таксама па сваёй ініцыятыве дэпутат праводзіць праверкі выканання наказаў выбаршчыкаў. Аб выніках праверак дэпутат інфармуе Савет або яго органы, а таксама выбаршчыкаў.

**Артыкул 31. Галоснасць у рабоце з наказамі выбаршчыкаў**

Рашэнні Савета, прынятыя па наказах выбаршчыкаў, падлягаюць апублікаванню.

Ход выканання наказаў выбаршчыкаў асвятляюць сродкі масавай інфармацыі, заснаваныя мясцовымі Саветамі.

## V. АСНОЎНЫЯ ГАРАНТЫІ ДЭПУТАЦКАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

**Артыкул 32. Забеспячэнне ўмоў для ажыццяўлення народным дэпутатам яго паўнамоцтваў**

Саветы народных дэпутатаў, іншыя дзяржаўныя і грамадскія органы, прадпрыемствы, установы, арганізацыі і іх службовыя асобы ствараюць належныя ўмовы для ажыццяўлення дэпутатамі іх паўнамоцтваў.

Прэзідыум Савета (старшыня), выканаўчы і распарадчы орган Савета забяспечваюць дэпутатам магчымасць карыстацца службовымі памяшканнямі, бібліятэчнымі фондамі і архівамі, сродкамі сувязі, электронна-вылічальнай, арганізацыйнай, капіравальна-размнажальнай і друкарскай тэхнікай, якая ёсць у Савеце.

Дзяржаўныя і грамадскія органы, прадпрыемствы, установы і арганізацыі, размешчаныя на тэрыторыі Савета, садзейнічаюць народным дэпутатам пры ажыццяўленні дэпутацкай дзейнасці ў прадастаўленні транспарту, забеспячэнні ў нечарговым парадку гасцініцамі.

**Артыкул 33. Вызваленне народнага дэпутата ад выканання вытворчых або службовых абавязкаў**

На час сесій Савета, а таксама для ажыццяўлення дэпутацкіх паўнамоцтваў у іншых выпадках, прадугледжаных заканадаўствам, дэпутат вызваляецца ад выканання вытворчых або службовых абавязкаў на тэрмін і ў парадку, які вызначаецца Саветам.

За ўвесь перыяд вызвалення на падставе заявы народнага дэпутата яму выплачваецца сярэдняя заработная плата і кампенсуюцца камандзіровачныя расходы па месцы работы або службы. Дадзеныя расходы пакрываюцца арганізацыямі за кошт сродкаў адпаведнага мясцовага бюджэту.

**Артыкул 34. Права народнага дэпутата на атрыманне інфармацыі і кансультацый. Аказанне дэпутату юрыдычнай дапамогі**

Дзяржаўныя і грамадскія органы, адміністрацыя прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, размешчаных на тэрыторыі Савета, абавязаны па просьбе дэпутата забяспечыць яго кансультацыямі спецыялістаў па пытаннях, звязаных з дэпутацкай дзейнасцю, і прадстаўляць неадкладна, а пры адсутнасці такой магчымасці — не пазней чым у двухтыднёвы тэрмін неабходную яму інфармацыю.

Прэзідыум (старшыня), выканаўчы і распарадчы орган Савета, адміністрацыя прадпрыемстваў, арганізацый, навуковых, юрыдычных, навучальных устаноў, праваахоўныя органы абавязаны аказваць народнаму дэпутату дапамогу па прававых пытаннях, якія ўзнікаюць у яго дэпутацкай дзейнасці.

**Артыкул 35. Права народнага дэпутата на бясплатны праезд**

Народны дэпутат абласнога, раённага, гарадскога, раённага ў горадзе, пасялковага і сельскага Савета карыстаецца адпаведна на тэрыторыі вобласці, раёна, горада, пасёлка і сельсавета правам бясплатнага праезду на ўсіх відах транспарту, за выключэннем таксі і транспартных сродкаў, якія належаць грамадзянам на праве прыватнай уласнасці, а таксама правам нечарговага атрымання праязных дакументаў.

Парадак і ўмовы бясплатнага праезду народных дэпутатаў мясцовых Саветаў, звязаныя з гэтым разлікі з транспартнымі арганізацыямі вызначаюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 36. Гарантыі працоўных правоў народнага дэпутата**

Народны дэпутат у перыяд сваіх паўнамоцтваў, а таксама на працягу аднаго года пасля іх заканчэння не можа быць па ініцыятыве адміністрацыі звольнены з работы на прадпрыемстве, ва ўстанове, арганізацыі, выключаны з калгаса, іншага кааператыва, навучальнай установы або пераведзены ў парадку дысцыплінарнага спагнання на ніжэйаплатную работу (паніжаны па пасадзе) без папярэдняй згоды Савета.

Народны дэпутат з ліку ваеннаслужачых і іншых катэгорый грамадзян, служба якіх рэгулюецца статутамі і палажэннямі, у перыяд сваіх паўнамоцтваў, а таксама на працягу аднаго года пасля іх заканчэння не можа быць па ініцыятыве адміністрацыі або камандавання звольнены са службы, паніжаны па пасадзе, а таксама перамешчаны па службе без яго згоды. Яму не можа быць затрымана прысваенне чарговага воінскага або роўнага воінскаму спецыяльнага звання згодна з займаемай пасадай.

Дэпутату, вызваленаму ад вытворчых або службовых абавязкаў, з прычыны выбрання яго ў склад Савета і яго органаў, па заканчэнні тэрміну паўнамоцтваў прадастаўляецца ранейшая работа (служба) або пры яе адсутнасці — іншая раўназначная работа (служба). Кантроль за працаўладкаваннем дэпутата ажыццяўляе адпаведны мясцовы Савет.

Час работы дэпутата ў Савеце і яго органах залічваецца ў агульны і бесперапынны стаж работы, стаж работы (службы) па спецыяльнасці.

**Артыкул 37. Недатыкальнасць народнага дэпутата**

Народны дэпутат абласнога, раённага, гарадскога, раённага ў горадзе, пасялковага, сельскага Савета народных дэпутатаў не можа быць на тэрыторыі адпаведнага Савета прыцягнуты да крымінальнай адказнасці, арыштаваны або падвергнуты мерам адміністрацыйнага спагнання, якія накладаюцца ў судовым парадку, без згоды Савета, у які ён выбраны.

Крымінальная справа ў адносінах да дэпутата абласнога і Мінскага гарадскога Саветаў можа быць узбуджана пракурорам адпаведна вобласці, горада Мінска або вышэйстаячым пракурорам, а ў адносінах да дэпутата раённага, гарадскога, раённага ў горадзе, пасялковага, сельскага Савета — пракурорам адпаведнага раёна, горада або вышэйстаячым пракурорам.

На тэрыторыі адпаведнага Савета не дапускаецца прывод народнага дэпутата, а роўна агляд яго асабістых рэчаў, багажу, транспарту, жылога або службовага памяшкання. Гэты парадак распаўсюджваецца на перапіску, сродкі сувязі, якія выкарыстоўваюцца народным дэпутатам, а таксама на дакументы, што належаць дэпутату.

**Артыкул 38. Парадак разгляду пытання аб пазбаўленні дэпутацкай недатыкальнасці народнага дэпутата мясцовага Савета**

Для атрымання згоды на прыцягненне дэпутата да крымінальнай адказнасці, арышт ці прымяненне мер адміністрацыйнага спагнання, якія накладваюцца ў судовым парадку, пракурор уносіць прадстаўленне ў Савет, у які выбраны народны дэпутат.

У выпадку прыцягнення да крымінальнай адказнасці, арышту ці прымянення мер адміністрацыйнага спагнання, што накладваюцца ў судовым парадку да асобы, якая з'яўляецца дэпутатам двух мясцовых Саветаў, неабходна атрыманне згоды толькі Савета вышэйшага ўзроўню.

Прадстаўленне ўносіцца перад прад'яўленнем дэпутату абвінавачвання або дачай санкцыі на арышт, ці накіраваннем справы аб адміністрацыйным правапарушэнні ў суд.

Вышэйстаячы пракурор можа адклікаць прадстаўленне аб атрыманні згоды на прыцягненне дэпутата да адказнасці, якое ўнесена ў Савет ніжэйстаячым пракурорам.

Савет разглядае прадстаўленне пракурора не пазней чым у месячны тэрмін і можа запытаць у пракурора дадатковыя матэрыялы, неабходныя для вырашэння пытання, пастаўленага ў прадстаўленні. Мясцовы Савет мае права адмовіць у задавальненні прадстаўлення пракурора аб пазбаўленні дэпутата недатыкальнасці толькі ў выпадку, калі ў працэсе разгляду прадстаўлення пракурора будзе ўстаноўлена, што інкрымінаваныя дэпутату дзеянні звязаны з выкананнем ім дэпутацкіх паўнамоцтваў. Дэпутат мае права ўдзельнічаць у разглядзе Саветам пытання аб яго дэпутацкай недатыкальнасці.

Аб сваім рашэнні Савет паведамляе пракурору ў трохдзённы тэрмін.

Пры нязгодзе з рашэннем мясцовага Савета пракурор раёна ці горада, а таксама вышэйстаячы пракурор мае права звярнуцца з прадстаўленнем у вышэйстаячы Савет аб адмене рашэння і перадачы пытанняў на паўторны разгляд адпаведнага Савета. Калі Савет пацвердзіць сваё рашэнне, вышэйстаячы Савет можа яго адмяніць і сваім рашэннем даць згоду на пазбаўленне дэпутацкай недатыкальнасці толькі ў выпадку, калі ў працэсе разгляду будзе ўстаноўлена, што інкрымінаваныя дэпутату дзеянні не звязаны з выкананнем дэпутацкіх паўнамоцтваў.

Рашэнне вышэйстаячага Савета з'яўляецца канчатковым.

**Артыкул 39. Адказнасць службовых асоб за невыкананне патрабаванняў гэтага Закона**

Службовыя асобы дзяржаўных і грамадскіх органаў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, якія не выконваюць сваіх абавязкаў перад дэпутатамі, перашкаджаюць іх рабоце, прадстаўляюць ім заведама непраўдзівую інфармацыю, парушаюць гарантыі дэпутацкай дзейнасці, падлягаюць адказнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 40. Дэпутацкае пасведчанне і нагрудны знак народнага дэпутата**

Народны дэпутат мае дэпутацкае пасведчанне і нагрудны знак дэпутата, якія выдаюцца яму пасля прызнання Саветам яго паўнамоцтваў. Дэпутацкім пасведчаннем і нагрудным знакам дэпутат карыстаецца на працягу ўсяго тэрміну сваіх паўнамоцтваў.

Палажэнне аб пасведчаннях і нагрудных знаках дэпутатаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў зацвярджаецца Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

27 сакавіка 1992 г.
г. Мінск.

# РОЗГАЛАС

## СПАЧАТКУ ТРЭБА ДАКАЗАЦЬ...

ПІНСК. (У. Равіцкі). На гэты год у дапамогу пінскім фермерам дзяржава бясплатна выдзеліла 800 тысяч рублёў. У раёне ёсць 6 фермерскіх гаспадарак, і першыя 200 тысяч ужо размеркаваны паміж імі. Грошы пайшлі на карэннае паляпшэнне выдзеленай зямлі — на меліярацыю, вапнаванне, набыццё ўгнаенняў, а таксама будаўніцтва вадаёмаў, электрыфікацыю. На закупку тэхнікі сродкі будуць выдзелены толькі пасля выканання неабходных мерапрыемстваў на зямлі. Зразумела, такі падыход некалькі абмяжоўвае ініцыятыву саміх фермераў. Але зараз, відаць, без гэтага не абысціся. Ва ўсім свеце ад кожнага, хто пажадаў стаць фермерам, патрабуецца доказ сур'ёзнасці яго намераў і магчымасцей.

## ТРАНСПАРТ. ПАДАРАЖАННЕ НЕПАЗБЕЖНАЕ

**Як нам паведамілі ў камерцыйным аддзеле ўпраўлення гарадскога транспарту, падаражанне на грамадскім транспарце непазбежнае. Наколькі даражэй будуць гэтыя паслугі, залежыць ад датацый Савета Міністраў РБ на гэты сродак руху. «Вілка» мяркуемай цаны аднаго талончыка ў тралейбусе ці аўтобусе — ад 60 капеек да 3 рублёў. У метро праезд, паводле прагнозаў эканамістаў, будзе больш танным.**

**Хутчэй за ўсё мы прыйдзем да «цывілізаванай» цаны за праезд, якая ва ўсім свеце вельмі салідная. Напрыклад, у Ізраілі адна паездка ў грамадскім транспарце раўнацэнная пуховай кофтачцы, у Польшчы ж — тры талончыкі складаюць эквівалент пляшкі польскага піва.**

А. КОКТЫШ.




Мал. Мікалая СЯЎЛЮКА.

## КУРС ВАЛЮТ

**ПА СТАНУ НА РАНІЦУ 15 КРАСАВІКА 1992 ГОДА**
**(Першая лічба — скупка, другая — продаж)**

| | Фірма «АНАТЅ» (г. Рыга) | Банк «Комплекс» (г. Мінск) |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 126—135 | 126—128 |
| Марка Германіі | 75— 81 | 70— 73 |
| Аўстралійскі долар | 82—105 | — |
| Брытанскі фунт | 187—236 | 200—205 |
| Фінская марка | 23,7— 30 | 24— 26 |
| Французскі франк | 19— 22 | 20— 22 |
| Канадскі долар | 87—112 | — |

БелаПАН.

## ЗА РАДКОМ ДЗЯРЖКАМСТАТА

## ХТО СТАПТАЎ НАШЫ ЧАРАВІКІ?

Як паведамляе Дзяржкамстат, летась абутковыя прадпрыемствы рэспублікі вырабілі 45 мільёнаў пар скуранога абутку (дарэчы, паняцце «скураны» ахоплівае як абутак з верхам з натуральнай скуры, так і абутак з верхам з тэкстылю, штучнай скуры і камбінаваным верхам). Пры гэтым 34,5 мільёна пар, або 82,6 працэнта выпушчанага абутку, пастаўлена гандлёвым арганізацыям рэспублікі. Згодна з тымі ж данымі, летась, у параўнанні з пазалеташнім годам, вытворчасць абутку скарацілася нязначна — на 3,8 працэнта, і ўжо толькі за два сёлетнія месяцы (у адносінах да мінулага года) яна з'ехала ўніз ажно на 15 працэнтаў. Летась у разліку на душу насельніцтва вытворчасць абутку складала 4,4 пары — трэцяе месца сярод краін Садружнасці пасля Арменіі і Малдовы. Яго вырабляецца на душу насельніцтва больш, чым у Балгарыі, Польшчы, Венгрыі, Румыніі...

Адным словам, такія вось даныя, якія, можа, і не вельмі саграваюць ногі, бо, як вядома, у магазінах і цяпер, пасля лібералізацыі, выбіраць амаль няма чаго. Да таго ж гэты выбар нярэдка абмежаваны яшчэ і зусім нізкай якасцю (яўны разлік вытворцаў на тое, што ва ўмовах дэфіцыту «ўсё пойдзе». І ідзе, а куды ж дзявацца спажыўцу?)

Аднак удакладнім даныя Дзяржкамстата разлікамі інстытута кан'юнктуры і попыту: рацыянальныя нормы забеспячэння абуткам наступныя — 5,8 пары на чалавека. Гэта з улікам гумавага абутку. А калі браць толькі так званы скураны (з тым жа тэкстыльным верхам), то норма — 4,67 пары.

Але што ж атрымліваецца? Вытворцы даюць амаль норму. Хто ў такім выпадку носіць нашы чаравікі? Няхай сабе з тым жа тэкстыльным верхам?

Зрэшты, можа сагрэемся весткай аб тым, што мы наперадзе Балгарыі, Польшчы і г. д. А што яшчэ застаецца?

Кар. «Звязды».

## НАС ЧАКАЕ ПАЛІТЫЧНЫ СТРЫПТЫЗ?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**Уладзімір Новік:**

— У першую чаргу нам трэба ўрэгуляваць прававы статус усіх народных дэпутатаў. Трэба даць магчымасць усім жадаючым прафесійна выконваць свае абавязкі. І тут ніякіх супярэчнасцей з Канстытуцыяй я не бачу. У аснове работы парламента павінна ляжаць не структура падзялення на камісіі, а структура падзелу на палітычныя фракцыі. Гэта — аснова любога еўрапейскага парламента.

...Наслухаўшыся дыскусій і дэбатаў, народны дэпутат Віктар Ганчар прама ад першага мікрафона, устаноўленага ў зале Вярхоўнага Савета, сказаў, што, мяркуючы па ўсяму, нас чакае палітычны стрыптыз. А гэта ўжо цікава...

Праект пастановы Вярхоўнага Савета «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Часовы рэгламент Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь», прапанаваны аб'яднаннем «Беларусь», накіраваны на дапрацоўку. Прыняцце яго будзе нялёгкім. А што, уласна кажучы, сёння ў нас даецца лёгка?!

Анатоль МЯСНІКОЎ.

## НЕ ЎСЁ ТАК ДРЭННА...

ГРОДНА. (Б. Пракопчык). Напярэдадні пасяўной кампаніі гучала шмат песімістычных прагнозаў. Аднак чуткі аб магчымай катастрофе былі некалькі перабольшанымі. Прынамсі, пакуль што сельскія працаўнікі Прынёманскага краю працуюць не горш, чым летась. Як паведаміў рэдакцыі намеснік начальніка аддзела па вытворчасці і перапрацоўцы прадукцыі раслінаводства абласнога камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванню Б. Мартонік, па стану на 14 красавіка засеяна 138,6 тысячы гектараў зерневых — гэта 55 працэнтаў ад усёй плошчы, а ў Мастоўскім і Шчучынскім раёнах — звыш 80 працэнтаў. На гэтым тыдні там разлічваюць завяршыць сяўбу. Такім чынам, у параўнанні з мінулым годам тэмпы работ не толькі не знізіліся, а нават павялічыліся.

— Невырашальных праблем на пасяўной пакуль што не ўзнікае, — гаворыць Б. Мартонік. — Адзінае, што трывожыць, — гаспадаркам няма чым разлічвацца за бензін, тона якога цяпер каштуе 9,5 тысячы рублёў. Трэба браць крэдыт. Аднак калі і як яго вярнуць?

А як жа справы ў фермераў? У камітэце па сельскай гаспадарцы і харчаванню нас запэўнілі, што ўсе заяўкі фермераў на транспарт, гаручае, угнаенні і насенне (за выключэннем бульбы) выкананы.

## Адпраўляйся, «Віталія», у Італію

**Народныя дэпутаты аршанскіх раённага і гарадскога Саветаў выступілі з заявай, у якой запатрабавалі забараніць будаўніцтва ў Оршы гарбарнай вытворчасці «Віталія».**

Спрэчкі «за» і «супраць» будаўніцтва разгарэліся не сёння. На Аршаншчыне і без таго цяжкая экалагічная абстаноўка, а ачышчальныя збудаванні, якія збіраецца паставіць італьянскі бок, не адпавядаюць патрабаванням аховы навакольнага асяроддзя. Прыемна, канешне, пафранціць у італьянскім абутку, ды толькі ў тым выпадку, калі на здароўе не скардзішся.

Юрый КАРМАНАЎ.
БелаПАН.

## ФЕРМЕРАЎ ПАЛЯЦЬ?

Паводле даных Сялянскага саюза Беларусі, у Слуцкім раёне быў падпалены дом фермера Міхаіла Сакалава.

Тры гады будаваў ён сваё жыллё, і вось, здавалася, будаўніцтва закончана. Фермер ужо сабраўся перабірацца са сваёй сям'ёй у новы дом, але адбылося самае нечаканае — пажар знішчыў усю пабудову. Фермер лічыць, што гэта не проста няшчасны выпадак, а падпал. Трэба адзначыць, што дом не быў застрахаваны. Паводле інфармацыі Сялянскага саюза, аналагічны выпадак адбыўся ў мінулым годзе ў Бярозаўскім раёне.

А. ГРУЗДЗІЛОВІЧ (РІД).

МАЛЮНКІ З НАРВЕГІІ

# Прымерым скандынаўскі варыянт

**Шэсць месяцаў прапрацаваў я ў Нарвегіі. Чалавек хутка прывыкае да добрага. Да чыстых вуліц і паркаў, поўных прылаўкаў, ветлівых людзей. Усё з часам становіцца звычайным, нават будзённым. Адыходзіць здзіўленне, пачынаецца асэнсаванне. Канешне, шэсць месяцаў мала нават для таго, каб усё даведацца пра аднаго чалавека. Не гаворачы ўжо пра цэлую краіну. Але я не прэтэндую на глыбокі аналіз. У сябе дома ніяк не можам разабрацца. А тут — іншая дзяржава.**

Думаю, кожны, хто з галоднай Расіі ўпершыню прыбывае ў Нарвегію, як і ў любую высокаразвітую заходнееўрапейскую краіну, у першую чаргу кідаецца да магазінных вітрын. І магазінна-прылавачнае ўражанне доўга потым мучыць нашага грамадзяніна пасля вяртання на радзіму, не дае спаць. Зноў і зноў ўзнікае пытанне: і чаму ў іх гэтулькі багацця?

Было б паўбяды, каб прылавачнае ўспрыманне Захаду раніла толькі душу радавога нашага грамадзяніна, не збалаванага замежнымі паездкамі. Яно, на жаль, часцей за ўсё прэваліруе ў галовах людзей, прэтэндуючых у нас на ролю аракулаў — палітычных, эканамічных, публіцыстычных.

Сёмы год на розных трыбунах, у газетах і часопісах, на вулічных мітынгах ідзе няспынная славесная мітусня вакол пераходу да рынку. Калі падсумоўваеш тое, пра што гавораць, робіш вывад: вось пяройдзем хутка, у кароткія тэрміны да рынку — настане ўсеагульнае шчасце. Не настане. Прынамсі, усеагульнае.

Ну, чаму ў нас так любяць дурыць людзям галовы? Семдзесят гадоў абяцалі светлую камуністычную будучыню, цяпер — яшчэ больш светлае капіталістычнае заўтра. Канешне, патрэбен рынак. Гэта—аксіёма, натуральнае развіццё эканомікі. Пры ўмове, што рынак цывілізаваны. Але нават калі гэта і так, дык паняцце «рынак» усё роўна зусім не адэкватнае паняццю шчасця. Рынак — не самамэта, а толькі сродак. Мэта павінна быць адна — чалавек.

Дай Бог, калі ў нас пасля пераходу да рынку не будзе калумбійскага варыянта капіталізму. Набяромся цярпення, спішам сённяшнія цяжкасці на чарговы ў нашай гісторыі пераходны перыяд. Так, сёння мы жудасна выглядаем нават на фоне краін трэцяга свету. Гэта калі для больш 80 працэнтаў грамадзян цэны сталі не па кішэні. Сёння пацерпім, а заўтра, магчыма... А што заўтра? Шведскі ці нарвежскі варыянт? Каб жа Богу ў вушы...

Паверыць, канешне, цяжка. Але давайце абстрагуемся і паверым, што мы жывём у Нарвегіі, у краіне з прылаўкамі, якія ломяцца ад тавараў. Так, тут чалавека паважаюць, так, тут дэмакратыя, так, тут ёсць усё. Але... Ці для ўсіх? Ці ёсць усеагульнае шчасце?

Неяк у першыя дні камандзіроўкі на адной з вуліц Осла мяне спыніла маладая, гадоў трыццаці нарвежка і папрасіла 3 кроны. Каб жа гэта быў адзіны выпадак...

Будучы ў камандзіроўцы ў шведскім горадзе Гётэборгу, разгаварыўся з Мікаэлай, дзяжурным адміністратарам гасцініцы. Атрымлівае яна 50 крон у гадзіну. За месяц набіраецца прыкладна 9 тысяч. Па нашых паняццях — шалёныя грошы. А для шведаў? 4 тысячы Мікаэла плаціць за камунальныя паслугі ва ўласным доме, 2 тысячы ў якасці падатку дзяржаве. Кілаграм мяса каштуе ў Швецыі, як і ў Нарвегіі, у сярэднім 80—120 крон, рыбы—40—100 крон, бохан хлеба — 6—20 крон, дзіцячая каляска — 2,5—4 тысячы крон, самы танны аўтамабіль «Лада—Самара» — 84 тысячы, дарагі і больш за паўмільёна пацягне. Добра, што ў Мікаэлы муж багаты. А каб і ён зарабляў столькі ж, як яна? А такія сем'і — не рэдкасць.

Але не да шчасця трэба рыхтаваць людзей, а да цяжкай работы, да штодзённага падліку кожнай капейкі, строгага планавання дамашняга бюджэту — на месяцы і гады наперад.

— Збіраюся я купіць новы тэлевізар, — расказваў мне высокапастаўлены супрацоўнік нарвежскай паліцыі. — Ведаю, што мне яго ўдасца набыць толькі праз год. Кожны месяц строга падлічваем расходы, каб адкласці нейкую суму на вялікую пакупку.

Яшчэ раз паўтаруся: на Захадзе ёсць абсалютна ўсё. Былі б грошы. А грошы даюцца нялёгка. У такой пурытанскай краіне, як Нарвегія, дзе не ўбачыш па тэлевізары голай жанчыны, няцяжка сустрэць на вуліцах начнога горада прадстаўніц самай старажытнай прафесіі, хоць афіцыяльных публічных дамоў няма. «Начныя матылькі» Осла, як, відаць, і любога іншага горада, распазнаюцца адразу. Ды яны і не ўтойваюць сваё рамяство, нягледзячы на пільнасць паліцыі маралі.

— Ты хочаш? — спыталася ў мяне адна маладая асоба на вуліцы Толбугата ў Осла.

— Пагаварыць хачу з табой. Я журналіст.

Крысцін, як назвалася мая субяседніца, выдала мне ўсю калькуляцыю свайго рамяства. За «аднаразовае каханне» яна бярэ 400 крон, плюс 200—за кантакт (як таксіст за пасадку), яшчэ плюс 300—за месца, калі яго няма ў кліента. За кожнае наступнае «каханне» — яшчэ па 200 крон.

Крысцін 25 гадоў, бацьку яна не памятае, маці кінула яе шмат гадоў назад. Выхоўвалася дзяўчынка ў дзіцячым доме. Цяпер жыве ў інтэрнаце, працуе раз у тыдзень. Атрымлівае каля 3 тысяч крон. А гады ж — маладыя. Апранацца хочацца. Боты каштуюць недзе амаль тысячу крон, куртка, не скураная, — за тысячу. Вось і пайшла на панель. Патрэбны грошы.

Людзей, асабліва маладых, якія, як Крысцін, маюць у Нарвегіі няпоўны рабочы тыдзень — не адна сотня тысяч. А зарэгістраваных на пачатак года беспрацоўных налічваецца 160 тысяч. Перакладзём на маштабы Беларусі — 400 тысяч атрымаецца. Вядома, ёсць дапамога, з голаду не памрэш. Але...

Бачыць чалавек вакол сябе шыкоўныя лімузіны, наведвальнікаў рэстаранаў, велізарныя вілы. На жаль, не кожнаму гэта дадзена. Грошы, грошы, грошы... Без іх — ні кроку. Вялікія грошы робяць яшчэ больш вялікія. Усё ў банках, на рахунках. Ніхто табе не пазычыць проста так, па-суседску. Можа, толькі пад працэнты, як у банку.

Ці гатоў наш народ да такой рэзкай змены псіхалогіі? Я не ўпэўнены. Ці ўлічваюць нашы вялікія рэфарматары чужы вопыт, ці прымаюць пад увагу нацыянальныя традыцыі, характар народнай душы? Не, яны здольныя толькі абяцаць людзям багатыя прылаўкі. Праз дзікі рынак. А ў дзікім рынку, як у дзікім лесе, слабыя гінуць. Выжываюць мацнейшыя.

Без прагматызму, канешне, здаровую эканоміку пабудаваць немагчыма. Але прагматызм на Захадзе запаланіў усе сферы жыцця. Памятаю, як скардзілася былая масквічка, якая выйшла замуж за нарвежца:

— Уяўляеш, прыходзіць да нас у госці сябар мужа. Як толькі муж на хвілінку выйшаў на кухню, ён адразу ж пачаў прапаноўваць мне спаткацца. Паабяцаўшы 3,5 кроны за адно спатканне. Вось так ён мяне ацаніў.

Колькі ні сустракаў рускіх эмігрантаў, пераконваўся: не прыжылася іх душа на нарвежскай глебе. Так, жывуць сытна, так, ніколі не вернуцца яны ў нашу бедную краіну. Але ў душы ўсё ж застануцца ізгоямі. Раней, чытаючы падобныя думкі ў савецкіх газетах, прымаў іх за прапаганду. На жаль...

Колькі б мы ні захапляліся, і зусім заслужана, Захадам, яго ўклад жыцця нельга, як па кальцы, перанесці на праект зусім яшчэ незразумелага новага грамадскага ладу, што зараджаецца ў нас. Дай Бог, канешне, дасягнуць нам некалі такога ўзроўню жыцця, як у Нарвегіі. Асабліва такой высокай ступені сацыяльнай абароненасці. Тут бясплатныя медыцына, адукацыя. Тут вельмі добрае пенсіённае забеспячэнне, цудоўныя дамы для састарэлых. Але нават у такім грамадстве, на жаль, ёсць людзі неўладкаваныя. І пакуль хоць бы адзін чалавек будзе спаць на вакзале, што я таксама бачыў у Осла, грамадства будзе далёкае ад ідэалу.

Пішу гэтыя радкі і думаю: а ці правільна зразумее мяне чытач? Ці не прыме за журналіста з эпохі застою, калі прафесіянальныя інтарэсы савецкага карэспандэнта за мяжой круціліся вакол аднаго і таго ж беспрацоўнага Джона з Нью-Йорка ці галадаючага фізіка, які шмат разоў пазіраваў маскоўскаму тэлеаператару? Я пішу гэта толькі для таго, каб растлумачыць людзям: не трэба цешыць сябе абяцаннямі пасткамуністычных рэфарматараў наконт усеагульнага шчасця праз рынычную эканоміку. Трэба рыхтаваць людзей да цяжкай працы і да асабістай адказнасці за сваю будучыню. Тады і багатыя прылаўкі з'явяцца. Самі па сабе. А раю на зямлі пакуль што няма. Нідзе.

Міхаіл БАЦЯН.

# УРАДАВАЯ ХРОНІКА

## Курс на прынятую ў міжнароднай практыцы сістэму ўліку і статыстыкі

Улічваючы тыя абставіны, што існуючая цяпер статыстыка не дае поўнага ўяўлення аб эканоміцы рэспублікі, аб стане рынку працы, капіталу, тавараў і паслуг, плацежнага балансу, бюджэту і ў цэлым фінансавых рэсурсаў, дзейнасці новых рынчных структур, а таксама не дазваляе аб'ектыўна ацэньваць працэсы станаўлення рынку і выпрацоўваць меры па яго развіццю, перабудове кіравання народнай гаспадаркай, умацаванню міждзяржаўных сувязей шляхам выкарыстання метадалогіі, якая прымяняецца ў статыстыцы і ўліку зарубежных краін, Савет Міністраў вырашыў стварыць такую сістэму статыстыкі, якая адпавядала б новым эканамічным адносінам, забяспечвала аналіз сацыяльна-эканамічных працэсаў і выпрацоўку спосабаў уздзеяння на іх.

У адпаведнай пастанове зроблена даручэнне Дзяржкамстату, Міністэрству фінансаў з удзелам Дзяржэканомплана, Нацыянальнага банка, Акадэміі навук, міністэрстваў, ведамстваў і навукова-даследчых арганізацый у трохмесячны тэрмін падрыхтаваць і падаць у Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь для зацвярджэння праграму перабудовы ўліку і статыстыкі, пераходу на сістэму нацыянальных падлікаў, прымяняемую ў іншых краінах, прывядзення ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі бухгалтарскага ўліку і ўсіх эканоміка-статыстычных паказчыкаў. Адначасова будзе арганізавана работа па стварэнню з 1 студзеня 1993 г. адзінага дзяржаўнага рэгістра прадпрыемстваў і арганізацый усіх форм уласнасці і гаспадарання.

У сувязі з пераходам на прынятую ў міжнароднай практыцы сістэму ўліку і статыстыкі ўзрастуць патрабаванні да падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі спецыялістаў па статыстыцы, эканамічнаму аналізу і бухгалтарскаму ўліку. У якасці базавых навучальных устаноў падрыхтоўкі такіх спецыялістаў устаноўлены Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт і вучэбны камбінат Дзяржкамстата. Міністэрству адукацыі даручана з улікам міжнародных стандартаў унесці змяненні ў вучэбныя планы, праграмы і падручнікі па статыстыцы, бухгалтарскаму ўліку і іншых дысцыплінах для студэнтаў эканамічных і інжынерна-эканамічных спецыяльнасцей вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў.

### У некалькі радкоў

*Савет Міністраў пастанавіў упаўнаважыць міністра аховы здароўя Казакова Васілія Сцяпанавіча падпісаць ад імя урада Рэспублікі Беларусь Пагадненне аб каардынацыі міждзяржаўных адносін у галіне аховы здароўя Садружнасці Незалежных Дзяржаў і дакументы, якія з яго вынікаюць.

*Урад прыняў распараджэнне аб камандзіраванні на 14 дзён у Злучаныя Штаты Амерыкі У. Марчанкі, загадчыка аддзела навукі і новай тэхнікі Кіраўніцтва спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. Мэта камандзіроўкі— прапрацоўка пытанняў, звязаных з прыцягненнем перадавых тэхналогій амерканскіх фірм для ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і ўзгаднення адпаведных кантрактаў.

*Для завяршэння навучання слухачоў былога інстытута паліталогіі і сацыяльнага ўпраўлення ўрадам вырашана пералічыць у 1992 годзе з грашовых сродкаў КПБ—КПСС, якія знаходзяцца на спецыяльным рахунку Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, Мінадукацыі 3 млн. рублёў, Акадэміі ўпраўлення пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь — 1,2 млн. рублёў.

*Для набыцця запасных частак да імпартнага абсталявання Крычаўскаму заводу гумавых вырабаў урад выдзеліў 2,4 тыс. долараў ЗША.

*Згодна з распараджэннем Савета Міністраў у 1992 годзе выдзелена Мінадукацыі на распрацоўку праекта Закона «Аб правах дзіцяці» 47 тыс. рублёў.

**Агляд падрыхтаваны службай інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

# ЗАМЕЖЖА

## СНЕДАННЕ НА ТРАВЕ

АБІДЖАН. Не чакалі аматары экзотыкі з Бельгіі, што снеданне на ўлонні прыроды ў адным з маляўнічых куткоў Сенегала скончыцца для іх на бальнічным ложку. На апетытныя пах прысмакаў і іншай разнастайнай яды, выцягнутай турыстамі, умомант зляцеліся шматлікія трапічныя насякомыя. Чужаземцаў абляпіў цэлы рой злых афрыканскіх пчол, вядомых агрэсіўнасцю і лютасцю далёка за межамі кантынента.

У жаласным выглядзе, з апухлымі тварамі і канечнасцямі ўсе турысты былі змешчаны ў бальніцу ў Дакары. Многія пацыенты знаходзяцца ў цяжкім стане.

## ШОСТАЕ МЕСЦА Ў СПІСЕ СМЕРЦІ

**ВАШЫНГТОН. За апошнія два гады колькасць хворых на СНІД амерыканскіх юнакоў і дзяўчат ва ўзросце да 20 гадоў узрасла на 70 працэнтаў. І цяпер гэта хвароба займае шостае месца ў спісе прычын смерці сярод маладых людзей гэтага ўзросту. Такія даныя прыводзяцца ў распаўсюджаным тут у суботу дакладзе спецыяльнага камітэта па праблемах дзяцей, моладзі і сям'і палаты прадстаўнікоў кангрэса ЗША.**

## АКІЯН АДДАСЦЬ ДАЎГІ?..

МАДРЫД. Больш за 100 залатых дублонаў удалося дастаць групе даследчыкаў з трумаў іспанскага галеона «Прэсіяда», які затануў у 1792 годзе ў водах Атлантычнага акіяна, непадалёк ад берагоў Уругвая, паведаміла агенцтва ЭФЭ з Монтэвідэо. Паводле даных вучоных, на борце карабля, патопленага марскімі піратамі, знаходзіцца мноства манет, залатая статуя Дзевы Марыі і іншыя каштоўнасці, якія ацэньваюцца ў 400 млн. долараў.

Галеон «Прэсіяда», пра які ходзіць мноства легенд, на працягу доўгага часу адшукваўся шукальнікамі скарбаў. Знайсці яго ўдалося дзякуючы дапамозе адной з уругвайскіх сем'яў, у якой ад далёкіх продкаў захаваліся дакументы, дазволіўшыя вызначыць месца гібелі галеона.

Гісторыкі сцвярджаюць, што ў мінулым ля ўзбярэжжа Уругвая затанула некалькі караблёў, пад абломкамі якіх і па сённяшні дзень знаходзяцца каштоўнасці і іншыя помнікі старажытнасці, якія ўяўляюць цікавасць для археолагаў.

## МУЗЕЙ У ЗАНЯПАДЗЕ

**«Усяго пакаленне назад сюды прыходзілі сем'ямі. Таты і мамы з дзецьмі цешыліся скульптурамі вялікіх памераў пад адкрытым небам, любаваліся сакавітымі фарбамі карцін. Тут жа прадаваліся настольныя гульні, створаныя мастакамі-дызайнерамі ў адзіным экземпляры...» Вось што піша пра Цэнтр мастацтваў Уокера і размешчаны побач з ім парк сучаснай архітэктурнай скульптуры ў горадзе Мінеаполісе часопіс «Ньюсуік».**

**Сёння, у перыяд абвастрэння сацыяльных праблем, супермодныя скульптуры, колеры і фарбы авангарда, архітэктурныя празмернасці выклікаюць у прахожых пачуцці, далёкія ад мастацтва. Таму не хапае сродкаў для таго, каб часткова абнавіць экспазіцыю, зрабіць неабходную рэарганізацыю, пабудаваць будынак...**

**У мінулым годзе музей у Мінеаполісе быў дзесятым у краіне па колькасці наведванняў — 683 тысячы, — і гэта не ў самым густанаселеным раёне ЗША. Сваёй папулярнасцю музей абавязаны яго дырэктару Марціну Фрыдману, які нядаўна пакінуў гэты пост. Кэці Халбрэйх, якая змяніла яго, трэба будзе зрабіць многае, каб перажыць цяжкія часы. Яна спадзяецца падтрымліваць на ўзроўні музейную гаспадарку.**

**НА ЗДЫМКУ: былы дырэктар Уокераўскага цэнтра мастацтваў у Мінеаполісе Марцін Фрыдман.**



**Вялікай папулярнасцю ў шматлікіх турыстаў карыстаецца сістэма падземных пячор Віамала-Горг, размешчаных у швейцарскім кантоне Грызон. Экзатычнай асаблівасцю пячор з'яўляюцца глыбокія вертыкальныя шахты, якія ідуць у глыбіню на сотні метраў.**

**НА ЗДЫМКУ: назіральная пляцоўка ў пячорах Віамала-Горг.**



## «ДЫСНЕЙЛЕНД» У ПАРЫЖЫ

**ПАРЫЖ. Першы на Еўрапейскім кантыненце парк «Дыснейленд» гасцінна расчыніў свае дзверы перад 60 тысячамі дарослых і дзяцей. Ён пабудаваны на маляўнічай ускраіне горада Марн-ла-Вале, размешчанага непадалёк ад Парыжа.**

**Марн-ла-Вале стаў чацвёртым горадам на планеце — пасля Лос-Анджэлеса, Арланда і Токіо, дзе гасцей чакаюць дзіўныя прыгоды ў свеце казак і сустрэчы з забаўнымі персанажамі з мультфільмаў амерыканца Уолта Дыснея. Будаўніцтва французскага «Дыснейленда» пачалося дзякуючы прынятаму ў 1985 годзе амерыканскай кампаніяй «Уолт Дысней» рашэнню а таксама пабудаваць такі парк забаў дзе-небудзь у Еўропе. Выбар выпаў на Францыю.**

**За 4 гады кампаніі «Еўрадыснэй» удалося стварыць першы парк забаў на трэці выдзеленай пад «Еўрадыснейленд» плошчы, роўнай амаль 2 тысячам гектараў. Другі комплекс будзе адкрыты праз тры гады. Тады, як заявіў прэзідэнт кампаніі «Еўрадыснэй» Раберт Фітцпатрык, французскі «Дыснейленд» зможа забаўляць штогод 11 мільёнаў наведвальнікаў.**

## НЯЎДАЛЫ ЭМІГРАНТ

ТЭЛЬ-АВІЎ. Жарабец арабскай крыві, які стаў у апошнія дні «зоркай» ізраільскай прэсы, вернуты ў чацвер у Іарданію. У мінулы аўторак конь, які належаў брату іарданскага караля наследнаму прынцу Хасану, збег з канюшні ў чырванаморскім порце Акаба і, пераадолеўшы ўплаў больш за два кіламетры, выскачыў на пляж паблізу ізраільскага горада Эйлат. У чацвер з дапамогай афіцэра ААН конь быў пераведзены цераз граніцу і ўручаны іарданскаму боку.

*Па матэрыялах інфармацыйных агенцтваў і друку.*

## «ГАРАЧЫЯ» СЛЯДЫ — ВЕРНЫЯ СЛЯДЫ!

За мінулыя суткі ў горадзе зарэгістраваны 43 злачынствы, 13 з якіх раскрыты па «гарачых» слядах. Учынена адно забойства, чатыры крадзяжы (усе апошнія раскрыты), адно згвалтаванне (раскрыта), сем крадзяжоў дзяржаўнай маёмасці (раскрыты тры), 14 крадзяжоў асабістай маёмасці (раскрыты два). Раскрыты злачынствы, звязаныя з фальшываманецтвам, нанясеннем цялесных пашкоджанняў, а таксама пяць злачынстваў, здзейсненых раней.

За п'янства былі затрыманы 133 чалавекі, 43 дастаўлены ў медвыцвярэзнік. За парушэнне правілаў дарожнага руху затрыманы 1.197 чалавек, выяўлены 14 нецвярозых вадзіцеляў аўтатранспарту.

## ВУЧЫСЯ, СТУДЭНТ! І ЗАМЫКАЙ ДЗВЕРЫ...

**Магчыма, 24-гадоваму В., калі ён знаходзіўся ў сябе дома ў Кітаі, нават у галаву не прыходзіла, што з яго незакрытага жылля могуць «свіснуць» рэчы. Стаўшы студэнтам першага курса Мінскага інстытута замежных моў і адначасова жыльцом інтэрната гэтай ВНУ, наваяўленаму студэнту прыйдзецца прывыкнуць да паняццяў «ключ», «дзвярны замок» і «зладзеі». Справа ў тым, што ўчора з яго незакрытага пакоя «выпарыліся» тры пары красовак.**

**...24-гадовы бабруйчанін Б., які праходзіў міма пакоя (невядома, адкуль ён тут узяўся), добра ведаў, што красоўкі кітайскай вытворчасці — адны з лепшых у свеце...**

**Б. змешчаны ў ізалятар.**

## ЧОРТ СПАКУСІЎ?

**ГРОДНА. Кульмінацыйнага пункта дасягнуў канфлікт каля Беларускага музея гісторыі рэлігіі ў Гродна. Мясцовы аблвыканком прыняў рашэнне аб перадачы яго праваслаўнай епархіі. Прычым ніякага іншага памяшкання музею не прадастаўляецца. Вольна або не гэтае рашэнне справакавала захоп будынка веруючымі сілай, а па вялікаму рахунку — канфлікт паміж інтэлігенцыяй і вернікамі. А як вядома, на знішчэнні ачагоў культуры духоўнасць не пабудуеш.**

БелаПАН.

## ПАЖЫВЁМ—ПАБАЧЫМ

ТАЛАЧЫН (**Т. Махтадуй**). Напэўна, з часоў, апісаных у рамане М. Шолахава «Узнятая цаліна», не было на вёсцы такой мітусні, як сёння. Селянін зноў пастаўлены перад выбарам, якой дарогай пайсці, каб выжыць: падрад, арэнда, асацыяцыя, кааператывы, таварыствы... Галава круціцца.

Члены калгаса імя Заслонава на справаздачным сходзе аднадушна выказаліся за захаванне калектыўнай гаспадаркі, але пры долевай форме ўласнасці, каб кожны меў свой пай. Адсюль і ўзнікла думка ператварыць калгас у сельскагаспадарчае калектыўнае прадпрыемства.

Не так даўно яго падзялілі на два. Адно з новых сельгаспрадпрыемстваў атрымала назву «Машэрава». Да яго перайшлі вёскі і землі, якія ўваходзілі некалі (да аб'яднання з заслонаўцамі) ў калгас імя Свярдлова. Акрамя сельгасугоддзяў, падзелены таксама жывёла, тэхніка, насенне, іншыя асноўныя фонды. Што ж, калгасы сёння свабодныя ў сваёй дзейнасці. Вось толькі што гэта прынясе? Але пажывём — пабачым.

## У «ВЕКТАРСА» СВОЙ ВЕКТАР

Беларускі дзіцячы фонд прымаў днямі прэзідэнта амерыканскай арганізацыі «Вектарс інтэрнешнл» Джэймса Аспіна.

Мэта яго візіту — дзелавая сустрэча з кіраўніцтвам Дзіцячага фонду. Абмяркоўваліся пытанні арганізацыі стажыроўкі нашых спецыялістаў - медыкаў у замежных клініках, іншыя перспектыўныя напрамкі супрацоўніцтва з гэтай уплывовай арганізацыяй. Госць пазнаёміўся з работай рэспубліканскага дыягнастычнага цэнтра «Антычарнобыль», анкалагічнага дзіцячага аддзялення ў Бараўлянах.

РІД.

## СЁННЯ І ЗАЎТРА

ПОЛАЦК. На сённяшні дзень у Полацку зарэгістраваны 142 беспрацоўныя.

Паводле прагнозаў гарадскога цэнтра занятасці, да канца года гэта лічба можа павялічыцца да 4 тысяч.

